# наша свабода

№2(89) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

8 СТУДЗЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





**УВАГА! КОНКУРС!**

Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА абвяшчае конкурс ***дзіцячага палітычнага малюнка.***
Конкурс праводзіцца па ініцыятыве вядомага палітыка Андрэя Саннікава.
Узрост удзельнікаў конкурсу – да 14 гадоў.

Каляровыя і чорна-белыя малюнкі памерам не болей 21х30 сантыметраў дасылайце на адрас рэдакцыі:
НАША СВАБОДА
п/с 103
220123 Мінск
БЕЛАРУСЬ

Аўтары самых цікавых малюнкаў будуць узнагароджаныя, а самі малюнкі з'явяцца на старонках нашай газеты



Мільёны дзяцей на свеце не ведаюць шчасце зрабіць на Каляды Снегавіка

# Расія размахвае ядзернай дубінкай

**Міхась КАРПОВІЧ**

Сапраўдным шокам для ўсяго свету стала паведамленне амерыканскай *Washington Times* са спасылкай на выведку ЗША пра тое, што Расія разгортвае ядзерную зброю ў Калінінградскай вобласці. Невялічкі анклаў на Балтыйскім моры, што месціцца паміж Літвой і Польшчай і не мае агульных межаў з астатняй Расіяй, адразу стаў аб'ектам міждзяржаўных моўных баталіяў.

Чыноўнікі ў амерыканскай адміністрацыі на ўмовах ананімнасці пацвярджаюць інфармацыю пра размяшчэнне тактычных ядзерных боегаловак на базах Балтыйскага флота Расіі ў Калінінградскай вобласці. Паводле іхніх словаў, расійская зброя знаходзіцца там ужо каля паўгода – з чэрвеня. Некаторыя эксперты нават удакладняюць, што размова ідзе пра тактычныя ракеты *SS*-21 «Точка-М» з радыусам дзеяння 70-130 кіламетраў.

Расія, тым часам, актыўна адмаўляе наяўнасць ракетаў на тэрыторыі анклава. Памочнік камандуючага Балыйскім флотам Анатоль Лобскі катэгарычна абверг паведамленне пра з'яўленне на базе Балтфлота ядзерных боегаловак. Але заходнія аналітыкі пры гэтым нагадваюць, у прыватнасці, што ў складзе флота дагэтуль знаходзяцца баявыя караблі і падводныя лодкі, якія мелі на ўзбраенні ядзерныя ракеты падчас «халоднай вайны».

У савецкія часы ў Калінінградскай вобласці размяшчаўся вялікі ядзерны арсенал, які мусіў падмацоўваць групоўку савецкіх войскаў у Германіі. У пачатку 90-х гадоў Расія пад ціскам ЗША была вымушаная абвясціць Балтыку бяз'ядзернай зонай і вывесці адтуль ядзерную зброю. Тым не менш, па інфармацыі *NATO*, устаноўкі для запуску ядзерных ракетаў, а таксама сістэмы навядзення засталіся ў рэгіёне. Так што аднавіць «ядзерны шчыт» было б не вельмі цяжка. Пра гэта паведаміла польская *Gazeta Wyborcza* са спасылкай на аднаго з польскіх афіцэраў, што працуюць цяпер у штаб-кватэры Паўночнаатлантычнага альянсу ў Брусэлі.

Паведамленні пра разгортванне расійскай ядзернай зброі з вялікай заклапочанасцю ўспрынялі суседнія з Калінінградскай вобласцю Літва і Польшча. Абедзве краіны настойваюць цяпер на правядзенні вайсковай інспекцыі на тэрыторыі вобласці. Міністр абароны Польшчы Браніслаў Камароўскі заявіў у тэлевізійным інтэрв'ю, што «Польшчы неабходна штодня адсочваць сітуацыю ў Калінінградзе». Па ягоных словах, каб пераканацца ў адсутнасці расійскай зброі ў рэгіёне, на чым упарта настойвае Расія, неабходна правесці міжнародную інспекцыю, «і гэта нармалёва».

Але навошта Расія размяшчае на сваім захадзе ядзерную зброю, якая, дарэчы, не можа прадстаўляць сур'ёзнай пагрозы для *NATO* з-за малога радыусу дзеяння ракетаў? Штаб-кватэра *NATO* ў Брусэлі выказвае меркаванне, што, магчыма, гэта запозненая рэакцыя Расіі на пашырэнне альянсу на Усход, калі ў склад *NATO* ў сакавіку 1999 года ўвайшлі Польшча, Венгрыя і Чэхія, а былыя савецкія рэспублікі Літва, Латвія і Эстонія актыўна рыхтуюцца да ўваходжання ў склад вайсковага блоку ў бліжэйшыя гады.

Размяшчэнне ракетаў можа тлумачыцца выключна палітычным, але ніяк не стратэгічным крокам. Гаворачы прасцей, Расія пачынае размахваць ядзернай дубінкай, каб «папярэдзіць» краіны былога Савецкага блоку і заклікаць іх да больш «лаяльных» паводзінаў да былога «старэйшага брата».

Дарэчы, улетку 1999 года, падчас бамбардаванняў *NATO* Югаславіі, у Калінінградскай вобласці праводзіліся вучэнні расійскай арміі, галоўнай задачай якіх было «адбіццё нападу *NATO* на Калінінградскую вобласць». Як паведамляюць відавочцы, праз тры дні вучэнняў стала зразумела, што далей працягваць абарону пры дапамозе толькі звычайных узбраенняў бесперспектыўна – неабходная ядзерная зброя. І тады два расійскія бамбардыроўшчыкі ТУ-95 з ядзернай зброяй на борце «адпрацавалі» магчымы запуск крылатых ракетаў па цэлях на ўсходнім узбярэжжы ЗША. Атрымліваецца, што Расія пры неабходнасці гатовая першай пайсці на выкарыстанне ядзернай зброі.

Зазначым, што Расія даўно ўжо імкнецца адыгрываць самастойную і значную ролю на сусветнай арэне – нягледзячы на тое, што даўно ўжо дэ-факта страціла статус супердзяржавы. Апошнія яе крокі ніяк нельга назваць міралюбівымі – аднаўленне вайсковага супрацоўніцтва з Іранам, пачатак баявых вылетаў стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў у бок Аляскі, узмацненне антызаходняй рыторыкі і г.д. Цяпер аказваецца, што Расія, магчыма, зрабіла яшчэ адзін крок на шляху да аднаўлення «жалезнай заслоны» – разгарнула на мяжы з *NATO* ядзерную зброю.

У выніку, цяпер новы прэзідэнт ЗША Джордж Буш-малодшы і ягоная адміністрацыя маюць на руках цудоўны козыр на карысць увядзення амерыканскай сістэмы супрацьракетнай абароны, супраць якой так актыўна выступала Расія. Калі Крэмль робіць першы крок на шляху да ўзброенага супрацьстаяння, Захад мусіць мець годны адказ на яго. ■



# Лукашэнка не хоча прымаць амерыканскага пасла

Тады, як новы амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак ужо болей двух месяцаў не можа сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам, той 4 студзеня прыняў даверчыя граматы ад пасла Мадагаскара, выспы ў Індыйскім акіяне з чырвона-зялёным дзяржаўным сцягам.

Гэтак сталася нягледзячы на ўсе дыпламатычныя пратаколы, паводле якіх паслы мусяць уручаць кіраўнікам дзяржаваў даверчыя граматы згодна з паслядоўнасцю прыбыцця ў дадзеную краіну. Але амерыканскі амбасадар прыехаў у Беларусь раней за мадагаскарскага.

Па завядзёнцы на стары Новы год 13 студзеня А.Лукашэнка ладзіць прыём для замежнага дыпламатычнага корпуса, і хутчэй за ўсё Майкл Козак уручыць яму даверчыя граматы да гэтага дня. ■

# Завадскага «шукаюць» паўгода

Учора, 7 студзеня, споўнілася паўгода, як знік аператар ОРТ Дзмітрый Завадскі.

Нагадаем, што журналіст прапаў 7 ліпеня 2000 года па дарозе ў Нацыянальны аэрапорт «Мінск», дзе павінен быў сустрэць свайго калегу Паўла Шарамета: каля будынка аэрапорта знайшлі толькі машыну, на якой Д.Завадскі сюды прыехаў з Мінска.

У новым годзе, 5 студзеня, Святлана Завадская наведала пракуратуру, дзе ёй было заяўлена, што ніякімі звесткамі аб лёсе яе мужа тут дагэтуль не валодаюць, а расследаванні падобных справаў могуць цягнуцца цэлымі гадамі. Разам з тым жонцы журналіста ўдалося даведацца, што фармулёўка абвінавачвання, прад'яўленага асобам, арыштаваным па дадзенай справе, трохі зменевая: калі раней яны абвінавачваліся ў выкраданні і забойстве Д.Завадскага, то зараз — толькі ў выкраданні. Такім чынам, лічыць Святлана, «можна спадзявацца, што яны камусьці Дзіму перадалі і ён жывы». ■

## НАВІНЫ

■ **Беларускія ўлады шукаюць грошы на правядзенне 18 сакавіка паўторных выбараў у «палату».** У Цэнтрвыбаркаме кажуць, што на псеўдадавыбары будзе выдаткавана 279 мільёнаў долараў. Не выключана нават, што частку сродкаў возьмуць з фонду прэзідэнцкіх выбараў, які складае 12 мільярдаў рублёў.

■ **Яшчэ трохі – і знешні доўг Беларусі пераваліць за мільярд долараў.** Паводле словаў, міністра фінансаў Мікалая Корбута, на 1 снежня мінулага года ён складаў 815 мільёнаў долараў. Пратэрміноўка па замежных крэдытах – 38 мільёнаў долараў, прычым палова ад гэтай сумы прыпадае на АТ «Атлант».

■ **Літоўцы намагаюцца прадаць беларускі доўг энергіі: кампанія *Letuvos Energa* абвясціла тэндар на доўг Беларусі за пастаўкі электраэнергіі з Літвы ў 1998 і 1999 гадах.** Доўг складае 50 мільёнаў долараў. Заяўкі купіць яго будуць прымацца да 5 лютага 2001 года. Літоўцы разлічваюць атрымаць за гэты доўг 30 мільёнаў долараў. Дарэчы, з леташняга кастрычніка пастаўкі энергіі з Літвы ў Беларусь былі спыненыя.

■ **З новага года ўлады Крычава дадалі галаўнога болю мясцовым уладальнікам маршрутных таксовак.** Справа ў тым, што з 1 студзеня ў гэтым горадзе кожны кіроўца павінен паставіць у машыну касавы апарат. Таксісты наракаюць на ягоны вялікі кошт (каля 300 долараў) і нязручнасць пры выкарыстанні. Шмат хто будзе вымушаны шукаць іншую працу.

■ **На Берасцейшчыне сялянам раздаюць калгасных свіней.** У прыватнасці, гэта робіцца ў калгасе «Чырвоны сцяг». Справа ў тым, што самі тут не спраўляюцца з неабходнымі аб'ёмамі паставак дзяржаве мяса. За тое, што людзі ў сваіх дварах будуць гадаваць гэтых свіней, старшыня калгаса паабяцаў ім заплаціць за выгадаванага парсюка грошы, даць збожжа і 10 сотак зямлі.

■ **На 37% сродкаў болей, чым тое планавалася, было патрачана на ўтрыманне Магілёўскага аблвыканкама ў 2000 годзе.** На адныя толькі кветкі было выдаткавана 6,5 мільёна рублёў, тады як у 1999 годзе на гэта пайшло толькі 3,5 мільёна. У той жа час на «аднаразовую дапамогу тым, хто часова трапіў у галечу», пазалетась выдзелілі ўсяго 1,6 мільёна рублёў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1250**

# Дитя вступило в жизнь

## Рожденный в юбилейную новогоднюю ночь познает реалии задворков

**Наталья РАДИНА**

**В прошлом номере НАША СВАБОДА представляла читателям девять малышей, которые родились в Минске в торжественную, полную надежд и лучших пожеланий ночь перехода в III тысячелетие. Корреспонденты газеты навестили семью Коничевых вскоре после того, как удачливого младенца внесли в родной дом.**

Это старый полузаброшенный дом №52 по ул. Быховской, который с 1954 года не знал капитального ремонта и находится в аварийном состоянии.

Трудно себе представить, что сегодня люди могут жить в ***таких условиях***. Уже в обшарпанном подъезде, где находится квартира молодой матери Ольги Коничевой, легко провалиться в глубокую яму неизвестного происхождения. Никто не позаботился перекрыть ее хотя бы временным настилом. Деревянные полы и ступени подъезда давно прогнили, стены покрыты сетью трещин, последний раз их красили, наверно, лет тридцать назад. Кругом царит разруха. Но еще страшнее оказалось в квартирах.

В доме 40 квартир, но 10 из них уже пустуют. Квартира Коничевой располагалась на одной лестничной площадке с такой пустующей квартирой. Эти квартиры не опечатаны, двери в них выломаны бомжами, которые согреваются там зимними ночами. С ними спасаются тут от холодов бродячие псы и крысы, которые вырыли в давно прогнившем полу глубокие норы. Вся эта живность носится по подъезду.

Жилые квартиры немногим отличаются от заброшенных. Собственно квартирами те помещения, в которых ютятся люди, назвать трудно. В них не предусмотрены ванна, туалет и кухни. Все 40 квартир дома №52 одной планировки: комната размером 18-20 м и узкий двухметровый коридор. Вместе взятое все скорее напоминает тюрьму.

Вода в квартирах только холодная. И то не всегда. Канализационная система дома давно прогнила. Трубы прорывает чуть ли не ежедневно то в одной квартире, то в другой. Туалет с двумя дверями («М» и «Ж») на улице и обслуживает шесть рядом стоящих домов. В этот так называемый туалет вынуждены ходить 240 семей. Заходить туда опасно для здоровья: лампочки выкручены, а в тех случаях, когда канализация забивается (что происходит несколько раз в месяц), фекалии плавают не только в туалете, но и под окнами дома №52.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Ольга Коничева с сыном по возвращении из роддома



Фота Ул.ШЛАПАКА

Ольга Петлицкая с трехмесячным Артемом

Квартира Ольги Коничевой уже была завешана пеленками. В комнате молодая мать умудрилась «спланировать» кухню, ванну и туалет, состоящие из газовой плиты, тумбочки, ведра и тазика. Для того, чтобы искупать малыша, Ольга нагревает огромную кастрюлю воды, на что уходит до 5 часов, потом вода еще 2 часа остывает, так что воздух в квартире, мягко говоря, тропический. Но тяжелый воздух в квартире не только из-за этого.

Из заключения главного санитарного врача Октябрьского района Минска от 28 ноября 2000 года: «Нами было произведено обследование, в ходе которого установлено, что дом №52 по ул. Быховской находится в аварийном состоянии: имеют место многочисленные трещины в фундаменте и на стенах дома. Часто случаются **порывы и засоры канализационных сетей, что вызывает зловонный запах. Влажность в квартирах превышает рекомендуемые гигиенические величины. Во всех квартирах имеются многочисленные следы сырости и плесени».**

Плесень и ее неистребимый запах Ольгу и всех жильцов дома №52 преследует постоянно. Вся их одежда в шкафах буквально гниет. Гниет и мебель — ее опасно передвигать с места на место, так как она попросту разваливается от сырости. Гниет пол — под линолеумом даже зимой живут многоножки. По словам жильцов, через щели в полу к ним из подъезда пробираются крысы. О полчищах тараканов можно уже и не говорить. Проводка в доме давно состарилась, поэтому свет в квартирах беспрерывно мигает.

Во всех квартирах потолки постоянно текут. А в кв. №7 потолочные балки вообще сгнили и грозят упасть на жильцов. Проживающим там матери с дочкой заботливые власти предложили переехать в пустующую и полуразрушенную квартиру на первом этаже...

Ольга Каничева боится за своего младенца. Организм грудного ребенка не выдерживает повышенной влажности в квартирах. Соседский трехмесячный Артем не успевает выздороветь, как снова заболевает. 9-летнему мальчику из кв. №27 врачи прогнозируют бронхиальную астму...

Но ужасающие условия проживания еще не все. Ольга живет в одной комнате с матерью и 18-летним братом. Теперь в одной комнате их стало четверо ... И все они в полной безысходности. 23-летняя Ольга – мать-одиночка. Образование – среднее, до декрета работала вахтером. Так что жить ей с ребенком придется на одно пособие.

В тоске и безысходности живут все 30 семей дома №52 на ул. Быховской. Они уже устали добиваться правды, устали просить, умолять, требовать, ругаться в райисполкоме и Мингорисполкоме. Их отовсюду гонят, хотя Мингорисполком еще в 1996 году вынес постановление, согласно которому дом №52 по ул.Быховской должен быть реконструирован. Но вот уже пятый год чиновники Мингорисполкома не могут даже назвать точную дату начала восстановительных работ. А ведь, если верить легендам, которыми согревают себе душу несчастные люди, проживающие в полуразрушенном доме, в этом районе и в подобном доме когда-то жил нынешний премьер-министр Владимир Ермошин. Но даже в свою бытность «мэром» Минска, когда в его прямые обязанности входила помощь этим людям, он палец о палец не ударил, чтобы облегчить их удел. Забыл. Теперь эти задворки осваивает первое поколение третьего тысячелетия. ■

# Славянский союз двух: Красная шапочка и Серый волк

**Виктор КЛИНКО**

*Окончание. Начало в №1*



## Выход из имперского тупика

Значение подобного шага для России трудно переоценить. Обладая огромными финансовыми средствами, современными технологиями, интеллектуальным потенциалом и сырьевыми ресурсами, страны нового Евроазиатского блока стали бы лидерами в разработке и производстве новых сверхэффективных средств защиты от нападения.

Установление подлинной демократии, не отягощенной ложью и насилием — во имя сохранения имперского строя, и развитие местного самоуправления приведет к формированию гражданского общества как основы политического устройства новой России.

Не следует забывать о наступлении интеграционных принципов в Европейском сообществе стран. Поэтому вхождение в это сообщество российских стран-регионов могло бы сделать их субъектами цивилизованной европейской интеграции (в отличие от имперской, через подчинение, «интеграции по-российски»).

В силу этнической общности российских стран-регионов произойдет на условиях европейской интеграции образование нового Евроазийского Содружества российских территорий, которое придет на смену анахронической, экономически и политически неэффективной (история тому свидетельствует), антидемократической и лживой (интегрированной по-российски) РФ.

Демократическое и политическое возрождение, экономическое процветание России станут основой ее будущего величия и мирового авторитета как крупнейшей составляющей части будущих (условно назовем) Соединенных Штатов Евразии. Истинное возрождение России, раекрепощение творческого и интеллектуального потенциала населяющих ее народов, взаимовыгодное вовлечение огромных ресурсов в мировую экономическую систему — все это возможно через цивилизованный распад России с последующей реинтеграцией по европейским стандартам.

Поэтому проект поэтапного втягивания Беларуси (первый этап с «сохранением суверенитета», конечный — его ликвидация в едином государстве) противоречит национальным и экономическим интересам не только белорусского, но и российского народов.

Интеграция по-российски нужна не народам (между ними всегда будут дружеские отношения и связи), а московской властной (для расширения пространства власти) и экономической (для ограбления) элитам. Для них «Союз двух» — это обновленная, приукрашенная и замаскированная от цивилизованного мира модель имперской экспансии «прирастания (через «интеграцию) российских земель».

В условиях свободы и демократии в Европейском сообществе белорусский и русский народы в рамках суверенных, национальных государств имеют перспективы экономического и культурного развития. В противном случае Беларусь вообще не имеет будущего и обречена трансформироваться с помощью «Союза двух» в новую Смоленщину.

## Выводы

Возникновение и существование в нашей стране авторитарного режима, а также проводимая им политика русификации и ликвидации суверенитета Беларуси, определяются действиями московских властей (их спецслужб). Для этого в окружении Лукашенко (и не только) сформированы команды «Х», выполняющие сценарии спецслужб соседней страны. Их стратегическая задача — инкорпорация Беларуси в состав России. Команды «Х» ответственны за все интеграционные инициативы, которые от имени якобы Беларуси озвучивает А.Лукашенко. Специалисты команд (многочисленные советники и эксперты) осуществляют в отношении президента пропагандистскую обработку и информационный прессинг, препарирование и селекцию информации, поступающую к нему, благодаря чему его понимание неадекватно происходящему в Беларуси и мире. Они готовят ему доклады, формируют концепции, а также разрабатывают и организуют всевозможными внутренние и международные провокации. Без их подрывной деятельности не состоялась бы интеграция по-российски, а Беларусь к началу XXI века не оказалась бы в капкане: в экономическом тупике и политическом кризисе, с тоталитарным режимом, обманутым и обнищавшим народом. ■

# Каму што баліць...

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**Менавіта гэтак у колах інтэлігенцыі каментуюць прынятыя на мінулым тыдні Аляксандрам Лукашэнкам указы аб прэміі за 2000 год «За духоўнае адраджэнне» і «спецыяльных прэміях Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва».**

Нагода для жартаў з'явілася таму, што ў спісе ўганараваных апынулася прэзідэнт Канфедэрацыі стылістаў Аляксандра Лазоўская – «за перамогу ў першым чэмпіянаце па цырульніцкім мастэрстве краінаў Усходняй Еўропы 2000 года, вялікі ўнёсак у выхаванне творчай моладзі і высокае прафесійнае майстэрства». Калі ж сур'ёзна, то дужа дзіўныя ў А.Лукашэнкі ўяўленні, што такое культура і мастацтва.

Усяго «спецыяльнымі прэміямі» ўлаўрэаваны 21 чалавек, прычым амаль усе яны асобы малавядомыя і збольшага прыцягнутыя за вушы. З гэтага шэрагу вылучаюцца хіба што мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіл Фінберг («за стварэнне ў 2000 годзе высокамастацкіх праграмаў па творах беларускіх і расійскіх (!) кампазітараў») ды драматург Аляксей Дудараў (за стварэнне гістарычных п'есаў, пастаўленых Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы»). Але тут ужо паўстае пытанне, наколькі маральна браць прэмію з рук таго, хто ў прынцыпе не прымае беларускай культуры. Да ўсяго ўжо больш года як ён зусім і не прэзідэнт.

М.Фінберг называе сябе «чалавекам беларускай культуры і беларускай мовы», а А.Лукашэнка вядома як публічна і неаднаразова яе цвеліў. Аднак у нядаўнім інтэрв'ю «Комсомольской правде», распавядаючы пра двухгадзінную сустрэчу з ім, дырыжор нібыта даў самому сабе індульгенцыю: «Я казаў пра становішча справаў у культуры і знаходзіў паразуменне...Нельга абвінавачваць ва ўсім аднаго чалавека, мне здаецца, бяда ў сярэднім звяне». Увогуле ж М.Фінберг узяў гэтую прэмію яшчэ тады, калі пагадзіўся стаць так званым сенатарам у Нацыянальным сходзе.

А вось тое, што лукашэнкаўскую прэмію ўзяў А.Дудараў, здзівіла многіх. Гэта пасля «Князя Вітаўта», пасля абароны «Вольнай сцэны», дзе, у адрозненне ад Купалаўскага тэатра, ягоную п'есу «Прынц Мамабук» мінкульт ставіць забараніў. Так, можна сказаць, што старшыню Саюза тэатральных дзеячаў проста «падставілі», адмовішся ад прэміі – апынешся ў апале, не дадуць працаваць, аднак трэба тады старацца рабіць так, каб падобным чынам і не ганаравалі. Карацей, учынка ад Аляксея Дударава ні ягоныя знаёмыя, ні аматары творчасці не дачакаліся: узяў і вокам не міргнуў.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Цырульнікі ў Беларусі сталі лічыцца дзеячамі культуры

Яшчэ адна прэмія – «За духоўнае адраджэнне». Набралі пяць лаўрэатаў. Пры гэтым іх прадстаўлялі міністэрства культуры і чамусьці Беларуская праваслаўная царква. Ці не ёсць гэта чарговай прыкметай таго, якую канфесію ўлады намагаюцца зрабіць дзяржаўнай ці, прынамсі, дамінантнай. Ды і цырымонія ўзнагароджання нездарма прымеркаваная акурат на праваслаўнае Раство.

Кожная прэмія прадутледжвае ганарар у 100 мінімальных зарплатаў – гэта 360 тысячаў рублёў, прыкладна 300 долараў. Усяго з улікам выдаткаў на 26 прэміяў урачыстасці ў Палацы Рэспублікі абышліся ў 36 мільёнаў рублёў. Цырымонія ўручэння прэміяў прайшла ўвечары 7 студзеня. Прычым упершыню ў Палацы Рэспублікі, у тамтэйшай вялікай зале. Як у савецкія часы, пры ўваходзе Аляксандра Лукашэнкі ў залу ўсе прысутныя ўсталі. Пацалаваўшыся з Філарэтам, ён стаў прамаўляць – па-расійску – пра тое, як «в нашей стране сделано немало для развития культуры», і пра шчыльную суплётнасць яе з хрысціянствам, «особенно с православной церковью».

Лаўрэаты ў адказ дзякавалі «глубокоуважаемому» А.Лукашэнку «за наш творческий труд». Вось такая інтэлігенцыя... ■

# Бразаускас вышел из тени, чтобы возглавить теневой кабинет

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Вильнюса**

Теневой кабинет министров социал-демократической коалиции Литвы начал разрабатывать альтернативную правительственную программу, которая должна быть обнародована до февраля. Как заявил руководитель теневого правительства экс-президент Альгирдас Бразаускас, «этот документ будет конкретной программой, а не сборником лозунгов».

Теневое правительство левой оппозиции было сформировано в конце минувшего года. В ее состав входят бывшие министры, нынешние депутаты и несколько мало известных общественности специалистов. Сформированные теневые комитеты носят названия министерств действующего правительства Роландаса Паксаса, а один из комитетов собирается заниматься исключительно вопросами информационных технологий.

Написать альтернативную правительственную программу оппозицию Литвы обязывает Статут Сейма, хотя официально не существует понятия теневого правительства. Экс-президент Альгирдас Бразаускас, в прошлом году опять вернувшийся в активную политику, говорит, что «пока что не собирается из нее уходить».

«В политике останусь столько, сколько буду нужен. Как только увижу, что стал негодным, как старый паровоз, сразу поеду на запасные рельсы», — сказал бывший президент в интервью литовской газете «Республика». По его словам, в Литве нет объективных причин для существующего упадка.

Накануне выборов в парламент экс-президент Литвы возглавил социал-демократическую коалицию и был единственным ее кандидатом на пост премьер-министра. Оставшийся без настоящего премьерского портфеля А.Бразаускас сейчас будет заниматься делами теневого кабинета министров. Пока что он избегает прямых ответов на вопросы прессы, будет ли он баллотироваться на предстоящих президентских выборах. ■

